


# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

15 лютага 2019 года №7 (1242)

18+


## *21 лютага – Дзень роднай мовы*

# Верас, Тодар ды Альгерд

## Як жывуць у рэгіёне людзі з беларускімі імёнамі

старонка 20

На фота Міхася КУЛЯША – Верас ЛУЖЫНСКІ з Вілейкі.




ISSN 1991–7155





Адсканауйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/







**Хочуць стварыць абсерваторыю і безбар'ернае асяроддзе ў Маладзечне**

старонка 2

**Хлопец з Расіі стаў беларускім гісторыкам**

старонка 21

**Чаму ў Маладзечне ўпалі цэны на таксі**

старонка 3

# Хочуць стварыць абсерваторыю і безбар'ернае асяроддзе

## Якія ідэі прыдумалі для вуліцы стрыт-фуду

**«Адкрытая прастора» ў чарговы раз сабрала аматараў паляпшэння гарадскога жыцця. На крэатыўным форуме, які прайшоў 10 лютага, архітэктары, дызайнеры, мастакі з Беларусі і Літвы прапанавалі ідэі для развіцця вуліцы стрыт-фуда. Цягам дня творчыя госці горада наведалі вуліцу, распрацавалі і прэзентавалі свае ідэі.**



На форуме прагучала ідэя размаляваць павільёны на міні-рынку ў адным стылі.

МАЛАДЗЕЧНА

Летась у снежні праект маладзечанскага дыскусійнага клуба выйшаў у фінал конкурсу Social Weekend і атрымаў фінансавую падтрымку ў 10 тысяч рублёў на стварэнне гарадской крэатыўнай прасторы. Да канца мая арганізатары павінны распрацаваць праект абнаўлення вуліцы Ката Францыска.

Вуліца Ката Францыска – народная назва. Прыжывецца яна ці не, пакуль невядома, але, па словах арганізатараў, кот адназначна стаў сімвалам вуліцы.

Куратарамі форуму выступілі эксперты з Мінскай урбаністычнай платформы **Ілона Эльяшэвіч** і **Настасся Гермацкая**.

> Мінская ўрбаністычная платформа займаецца міждысцыплінарнымі адукацыйнымі, даследчымі і практычнымі праектамі ў галіне гарадскога развіцця.

Сярод іншых, форум наведалі мастак **Bazinato**, старшыня калегіяльнага органа тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання 81, кіраўнік праекта «Эка-дружны пад'езд» **Таццяна Сіпачова**.

### Якая канцэпцыя вуліцы

Першая група ўдзельнікаў працавала над канцэпцыяй брэнда.

– Хочацца, каб вуліца стала падставай для стварэння новых адносін да публічнай прасторы. Вуліца ўжо існуе, таму наша задача не навязваць новую канцэпцыю, а ўзмацніць харызму старой. Калі наведалі месца, адчулі атмасферу «дамашнасці». Там ёсць мілыя дэталі. Напрыклад, на вуліцы можна пагладзіць ката. Заўважылі шмат дрэў і натуральных элементаў. Нягледзячы на тое, што адзіная функцыя гандляроў – накарміць, адчулі, што можам завітаць да кожнага ў госці, – падзялілася спецыяліст па брэндынгу з Мінска **Алена Рабкіна**.

Душэўнасць, адкрытасць, клопат і акцэнт на збліжэнне – менавіта такія каштоўнасці, на думку гасцей, у вуліцы Ката Францыска. Яна душа Маладзечна, якую можна «напоўніць» афішай, гурткамі, музыкай, гісторыямі пра месца і знаёмствамі жыхароў.

– Самае важнае, што ёсць у людзей, – магчымасць камунікаваць, узаемадзейнічаць, развівацца. Кожны чалавек для кожнага – дапаможнік, настаўнік і магчымасць. На вуліцы хочацца бачыць дыялог паміж рознымі «карыстальнікамі» свету і максімальна прыцягваць жыхароў горада да стварэння аб'екта, – лічыць Bazinato.

### Якія зоны могуць з'явіцца

Над функцыянальным заніраваннем вуліцы працавала наступная група. Зрабіць месца пешаходным, стварыць безбар'ернае асяроддзе і пляцоўку для арт-аб'екта, дазволіць дзецям, дарослым і сталым людзям бавіць час на вуліцы – такія ідэі прапанавалі ўдзельнікі форуму.

Сутнасць функцыянальнага заніравання ў тым, каб аб'яднаць розныя групы насельніцтва. Магчыма, на вуліцы стрыт-фуда з'явіцца ціхая зона для пасіўнага адпачынку, цікавая для ўсіх. Тут можна будзе пасядзець, паесці. А таксама дзіцячая зона і месца для актыўнага баўлення часу для дарослых.

Летам у «пікавыя» дні прапаноўваюць ставіць разборную сцэну, цалкам ізаляваную ад машын. А зімой пакідаць толькі безбар'ернае асяроддзе. Дарогу паміж павільёнамі, па якой цяпер ездзяць аўтамабілі, хочуць аддаць пад арт-аб'екты.

### Навошта нацягваць сетку на дзвярную раму

Выказалі і іншыя ідэі. Паміж крамамі могуць з'явіцца столікі з лаўкамі. Побач са сметніцамі за павільёнамі – біятуалеты. На месцы маленькай паркоўкі бліжэй да мэблевага магазіна – зона гульняў і адпачынку, незалежная ад продажу ежы. А перад магазінам – арт-аб'екты і выстава.

Удзельнікі паказалі дарагі і бюджэтны варыянты безбар'ернага асяроддзя. Па першым трэба зраўняць тры ўзроўні, якія існуюць цяпер: дарогу, тратуар і лесвіцы павільёнаў. Па другім – пакінуць узровень дарогі, але зрабіць яго дасяжным да лесвіц павільёнаў, выкарыстоўваючы здымныя пандусы.

Разгледзелі таксама дэталі. Зборны і разборны варыянты сцэны. Рэчы, створаныя з другаснай сыравіны, буйнагабарытных адходаў. Напрыклад, «лаўкай» можа стаць непатрэбная драўляная рама, на якую чапляецца сетка. Вядома, часам нешта прападае, вандалізм ніхто не адмяняў, але такія рэчы лёгка замяняльныя, лічаць госці.

### Упрыгожаць вуліцу падвяснымі парасонамі

Не абышлі ўвагай азеляненне і асвятленне. Яшчэ адна група выказала ідэі па добраўпарадкаванні вуліцы.

– Месца заасфальтаванае, шмат новага не паставіш. Таму думалі пра пераносныя элементы. Тыя ж лаўкі з паддонаў, па краях якіх пасаджаныя расліны, напрыклад, каласняк, а побач можна паставіць ровар, – выказала ідэю ландшафтны дызайнер з літоўскага Каўнаса **Любоў Вінслове**.

З раслін сярод іншага могуць пасадзіць сланечнікі, бо яны аднагадовыя і не патрабуюць асаблівага догляду.



Студэнтка 2 курса маладзечанскай гімназіі-каледжа мастацтваў Кацярына Хадаровіч прэзентуе варыянты падсветкі на вуліцы Ката Францыска.

> **Асвятляць прапанавалі высокімі ліхтарамі ці падвяснай падсветкай. А падчас святаў паралі ўпрыгожваць гірлянды сцяжкамі, парасонамі, сэрцайкамі і нават невялікімі гарбузамі – да Хэлоўіна.**

Карысную прастору для крэатыву знайшлі і на даху мэблевага магазіна. Менавіта там прапанавалі размясціць кадкі з раслінамі, лаўкі і нават маленькую абсерваторыю.

Дэпутат Маладзечанскага раённага Савета дэпутатаў па Хмяльніцкай выбарчай акрузе №10 **Раман Жаўняровіч** дапамагае ў рэалізацыі гэтага праекта яшчэ з таго моманту, як да яго звярнуліся арганізатары. «Яго прысутнасць – гэта ўжо сумесная праца над праектам», – кажа адзін з арганізатараў праекта **Ганна Холад**. Жаўняровіч лічыць, для стварэння праекта трэба трымацца правілаў.

– Ёсць ініцыятыва, яе трэба рэалізаваць. Але спачатку трэба ўсё ўзгадніць. Напрыклад,ператварэнне вуліцы ў пешаходную цягне за сабой змену дарожнага руху. Значыць, праект трэба ўзгадніць з ДАІ. Ідэя – гэта добра, але трэба падысці да яе практычна. І неабавязкова рабіць толькі летні праект, зімой шмат свят, вуліца можа функцыянаваць заўжды.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Чаму ў Маладзечне ўпалі цэны на таксі

МАЛАДЗЕЧНА

**Ужо некалькі тыдняў, як маладзечанцы пачалі карыстацца новым перавозчыкам – «Яндэкс.Таксі». Разам з прыходам новага гульца на рынак знізіліся цэны і гарадскіх службаў.**

Ці доўга прадоўжыцца скідка на паездку ў таксі ў Маладзечне?

Фота politeka.net.

Яшчэ некалькі тыдняў таму паездка любым з аператараў абыходзілася не менш за чатыры рублі. На гэтым за такую самую адлегласць бралі ўжо тры.

### Як працуе сэрвіс

На цэны паўплывала тое, што ў горад прыйшоў новы перавозчык – «Яндэкс.Таксі». Сэрвіс працуе без званка дыспетчару. Трэба ўсталяваць у мабільным тэлефоне аднайменны дадатак. Пазначыць адрас, на які вы выклікаеце машыну, а таксама куды едзеце.

Сэрвіс прапануе вам вадзіцеля, а вы ў рэжыме рэальнага часу адсочваеце, як ён да вас едзе. І бачыце, у якую суму абыдзецца паездка.

Новая служба зайшла ў горад з цэнамі, ніжэйшымі за тарыф сталых перавозчыкаў. Таму ў адказ тыя службы ўвялі акцыю паніжэння цаны.

Прадстаўнік міжнароднай прэс-службы «Яндэкс.Таксі» пракаментавала для нашага выдання, з чым навічкі прыйшлі ў Маладзечна:

– Падача машыны і тры кіламетры дарогі каштуюць 2,90 рубля. Далей не больш за 40 капеек за кіламетр і капейкі за хвіліну. За 3,80 можна даехаць ад Велікасельскай да парку Перамогі.

### Гарадскія таксісты: змагаемся за кліентаў

Як на гэту сітуацыю глядзяць сталыя таксісты, мы спыталіся ў прадстаўніка службы «158» **Вадзіма Прошчанкі**. Ён расказаў, што прыход службы ад «Яндэкса» паўплываў на маладзечанскіх кіроўцаў. Некаторыя службы думаюць пра тое, каб усталяваць мабільны дадатак пад сваю арганізацыю. Аднак, на думку нашага суразмоўцы, ім будуць карыстацца каля 10-15% кліентаў, пераважна моладзь.

Прошчанка лічыць, што новая служба – слабы канкурэнт старажылам. Каб быць сур'ёзнай сілай, спатрэбілася б некалькі соцень машын. А пакуль, з яго ўласнага досведу, кліентам новага сэрвісу даводзіцца чакаць. У той час як у «158» з паркам каля 50 машын працэс адладжаны – кіроўцы па рацыі аператыўна перамаўляюцца, каму хутчэй даехаць да пэўнага кліента. Большасць вадзіцеляў дасведчаныя і добра ведаюць горад.

Суразмоўца расказвае, што раней асноўны тарыф быў чатыры рублі – за такую суму ездзілі як на кароткія адлегласці, так і на вялікія. Цяпер жа давялося ўводзіць акцыю і зніжаць цану да трох. Колькі акцыя будзе доўжыцца, невядома.

– Таксісты робяць усё, каб утрымаць кліентаў. У нас шмат кліентаў, якія кампаніяй раніцай едуць праз увесь горад на працу. Скінуліся па рублю – і ўсім нармальна.

Таксісты горада трымаюцца агульных дамоўленасцяў. Раз знізілі цану, то ўсе адначасова. Такую супольнасць няпроста будзе адолець новаму канкурэнту. Вадзім расказвае, што некаторыя кліенты паспрабавалі навічка, але вярнуліся да тых службаў, да якіх прывыклі.

### Як мы эксперыментавалі

Аўтар артыкула неаднаразова карысталася службай «Яндэкс.Таксі» ў розных абласных гарадах і Мінску. Паездка па Брэсце і Гродне абыходзілася да 2,50 рубля. Па Мінску ад Дружнай да Пятроўшчыны – 2,80. Аплачваць можна карткай, чакаць даводзіцца лічаныя хвіліны. І зручна, што тэлефон сам бачыць, дзе кліент, і паказвае месца кіроўцу.

Тым часам у родным горадзе нават самая сціплая паездка вылятала мінімум у чатыры рублі. Аднак на справе з некалькіх дзясяткаў спробаў выклікаць машыну «Яндэкс.Таксі» нічога не атрымалася – увесь час не было свабодных машын.

Прыход новай службы ўсё ж даў свой плюсік – за паездку ў таксі «158», якая заўсёды абыходзілася ў чатыры рублі, на гэтым тыдні ўзялі тры.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



## Запрашайце дзяржнагляд на кансультацыю

**Аддзел дзяржнагляду ў Маладзечне Інспекцыі дзяржстандарту па Мінскай вобласці і Мінску прапануе юрыдычным асобам і прадпрымальнікам больш актыўна супрацоўнічаць.**

Узаемадзейнічаць можна рознымі спосабамі – кансультацыі, сустрэчы, круглыя сталы. Усё гэта не патрабуе аплаты.

Мы гатовыя даваць інфармацыю пра новыя патрабаванні заканадаўства, разам вывучаць стан вытворчасці прадукцыі, ці вы прадаяце тавары і аказваеце паслугі ў адпаведнасці з патрабаваннямі тэхнічных нарматыўных прававых актаў.

Гатовы абмяркоўваць вострыя пытанні, збіраць інфармацыю, каб унесці змены ў тэхнарматывы. Усё гэта дапаможа працаваць у сучасных умовах больш прадукцыйна.

У Маладзечне і Вілейцы ўжо правялі шэраг такіх мерапрыемстваў, яны дапамаглі актыўна абмяняцца інфармацыяй.

Калі вы жадаеце правесці падобныя сустрэчы ў сябе ў калектывах Маладзечанскага, Вілейскага, Валожынскага ці Мядзельскага раёнаў, запрашаем званіць па нумар (8-0176) **74-60-50**.

**Святлана ДЗЕРАВЯНКА, вядучы інжынер дзяржнагляду за тэхрэгламентамі і стандартамі і дзяржаўнага метралагічнага нагляду ў Маладзечне.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**11,9** мільёна пасажыраў перавезлі таксаматорным транспартам у 2017 годзе.

**Паводле Белстат.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 7.02 | 14.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1604 | **2.1571** |
| Еўра | 2.4599 | **2.4428** |
| Злоты, 10 | 5.7304 | **5.6387** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2908 | **3.2832** |
| Грыўня, 100 | 8.0093 | **7.9578** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **6.02** | **13.02** |
| Еўра | 2.4500/2.4680 | **2.4300/2.4490** |
| Долар ЗША | 2.1450/2.1620 | **2.1450/2.1610** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **6.02** | **13.02** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,85 | **3,85** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,15 | **1,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,00 | **2,00** |
| Агуркі, 1 кг | 5,70 | **4,80** |
| Баклажан, 1 кг | – | **8,80** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,99 | **1,99** |
| Морква, 1 кг | 0,99 | **0,99** |
| Памідоры, 1 кг | 4,30 | **5,50** |
| Перац, 1 кг | 5,50 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,80** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,70 | **2,79** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **6,50** |
| Гранат, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Хурма, 1 кг | 3,80 | **3,30** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

# Ад завіўкі да паголеных скроняў

## Як змяняліся жаночыя прычоскі

**У пачатку стагоддзя ў моду ўваходзяць кароткія стрыжкі. З-за іх разгараецца сапраўдная вайна: мужы не пускаюць кароткастрыжаных жонак дадому. А ў Англіі забаронена з'яўляцца з кароткімі валасамі на свецкіх прыёмах. У гэтыя часы з'яўляецца першы ў свеце парашковы шампунь і перманент – доўгатэрміновая завіўка.**

**Піша Уладзіслава РЫНЕЙСКАЯ.**

Пасля Першай сусветнай вайны жанчыны развітваюцца з доўгімі валасамі. Модная шасцімесячная завіўка (яна магла быць электрычнай ці паравой, вертыкальнай ці гарызантальнай). А ў 1920 годзе набывае папулярнасць стрыжка «боб».

У 1930-я наступае эпоха плацінавых бландзінак. Прычоскі адметныя элегантнасцю і лёгкім шармам. Яны становяцца менш пышнымі, чым у папярэднія дзесяцігоддзі, часцей дзяўчаты выбіраюць больш кароткія стрыжкі. Сярод эталонаў 30-х – Марлен Дзітрых, Бэці Дэвіс, Джын Харлоў.

У 1940-я з'яўляецца прычоска, якая закрывае адно вока. Нават цяпер стыль «гульня ў хованкі» не губляе папулярнасці.

У сярэдзіне стагоддзя жанчыны не хочуць насіць кароткія стрыжкі, аддаюць перавагу локанам, мяккім хвалям, вытанчаным пучкам. Моднымі становяцца накладныя грыўкі, начосы, шыньёны.

Жанчынам 1960-х падабаюцца распушчаныя валасы, натуральнасць. Гламурныя локаны ўпэўнена перамагае хіпі-стыль. Аднак сапраўдная «ікона стылю» Твігі носіць іншую прычоску. У яе графічная стрыжка з падоўжанымі скронямі і касой грыўкай.

1970-я прыносяць «антымоду» – тады важна было выглядаць не так, як усе. З'яўляюцца іракезы і дрэды. А ў СССР папулярнасць набывае стрыжка з падкручанымі ўнутр кончыкамі, якія закрываюць вушы, з грыўкай да броваў.





**За сто гадоў мода змянілася кардынальна.**

У 1980 годзе ў крамах з'яўляюцца шампуні, якія даюць адценне. У моду ўваходзяць розныя ўпрыгажэнні для валасоў: заколкі, банты, павязкі. Самай знакамітай прычоскай становіцца стрыжка «пад пажа» прынцэсы Дыяны.

Праз дзесяць год з'яўляецца стрыжка «лесвічкай», папулярная і дагэтуль. Дзякуючы ёй спаўняецца жаночая мара аб аб'ёме на прамых валасах.

А ў пачатку 21 стагоддзя вяртаецца стрыжка «боб», якая мае новае імя – пош-боб. Posh па-англійску – «раскошны». Паняцце адпавядае і іншым прычоскам гэтага часу. Модный тэндэнцыяй становяцца відавочна дагледжаныя валасы. Сярод моладзі папулярныя прычоскі рознага колеру: ружовага, блакітнага, фіялетавага.

Праз дзесяць гадоў жанчыны пачынаюць галіць адну скронь, робячы з астатняга прыгожыя ўкладкі. І дагэтуль многія модніцы падтрымліваюць гэту тэндэнцыю. Становяцца моднымі афарбоўкі балаяж і амбрэ. •



# 12 модных тэндэнцый вясна-лета 2019

**Прыхільніцы прыгожых будынкаў і складаных прынтаў могуць радавацца: у новым сезоне дызайнеры раяць апранацца з ног да галавы ў рэчы з поўнакаляровымі і манахромнымі малюнкамі гарадскіх ландшафтаў.**

**Піша Уладзіслава РЫНЕЙСКАЯ.**

1. Адзін з галоўных трэндаў наступнай вясны – адзенне з бэжавай скуры. Набудзьце тонкае паліто, штаны, спадніцу, кашулю ці нават сукенку гэтага колеру. Яны добра будуць спалучацца з адзеннем чырвонага, блакітнага ці белага колераў. У гэтым сезоне ўвогуле будуць папулярныя скураныя рэчы – адной «кожанкай» дакладна не абыдзецеся. Таксама папулярныя крэмавыя рэчы без каляровых уставак.

2. А яшчэ вясной не абысціся без бавоўняных карункаў на сукенках і спадніцах. Гэта не «мінулае стагоддзе», а цяперашняя модная тэндэнцыя. І вобраз маленькай танклявай дзяўчынкі зноў у модзе.

3. Будзе запатрабаванае цалкам белае адзенне з халодным адценнем. Манахромныя белыя касцюмы без каляровых уставак абавязкова прыцягнуць увагу аматараў высокай моды. Да іх лагічна падыдзе белы абутак. А яшчэ ў новым сезоне будзе зззяць срэбра. Таму запасайцеся рэчамі срэбранага колеру ці са срэбранымі ўстаўкамі.

4. А для прыхільніц яркага адзення выдатна падыдуць рознакаляровыя прынты-гарохі. Але ў трэндзе будуць і рамантычныя чорна-белыя кругі. Прычым на фоне любога колеру.

**5. Мода вяртаецца: сёлета будуць папулярныя банданы – трэнд 90-х гадоў. Іх можна павязваць на шчыкалатку, ручку сумкі, галаву ці шыю.**

6. Вернецца і «вінтажная» плісіроўка. Яна стане ледзь не самым галоўным трэндам сезона. Сукенкі і спадніцы ў дробныя складкі цудоўна ўпішуцца ў сёлетні гардэроб. Плісіроўка будзе як вертыкальная, так і гарызантальная.

7. Вясной у калекцыях модніц павінна з'явіцца адзенне віктарыянскай моды. Доўгія сукенкі з рукавамі-ліхтарыкамі і стужачкамі нагадаюць атмасферу мінулага.

**8. Радасць для моцнай паловы чалавецтва: адкрытыя сэксуальныя сукенкі не знікнуць. Замест іх прыйдзе экстрэмальнае міні.**

9. Адна з цікавых тэндэнцый вясны – завязаныя рукавы на стане. Імі дызайнеры прапаноўваюць падкрэсліваць талію. Для гэтага рукавы куртак, сарочак і світараў выдатна падыходзяць і глядзяцца даволі арыгінальна.




**Модныя ўпрыгажэнні для валасоў новага сезона: заколкі, абадкі і гумкі.**

10. Запатрабаваныя будуць спадніцы-хусткі і сукенкі са складанымі этнічнымі арнаментамі бэжавага, карычневага, пясочнага колераў.

**11. У сферы цырульніцкага мастацтва дызайнеры сталі часцей выкарыстоўваць прамы прабор.**

А яшчэ пазбавіліся ад аб'ёму: і распушчаныя валасы, і косы, і хвост – усе прычоскі павінны быць гладкія ля каранёў. Для гэтага выкарыстоўваюць «мокрыя» ўкладкі. І чым мацней блішчаць валасы, тым лепш.

12. А яшчэ сёлета ў модзе папулярныя кароткія валасы і звышкароткія грыўкі. Так што смела запісвайцеся на стрыжку. •



Фотаmb.mn.

# Як змянялася мода па дзесяцігоддзях

**Усю гісторыю апошняга стагоддзя можна прасачыць па змяненнях моды. Усё, што адбывалася ў грамадстве, хутка адбівалася на адзенні мужчын і жанчын. Таму надзвычай цікава назіраць, як ад гарсэтаў і крыналінаў мы паступова прыйшлі да міні-спадніц.**

Піша Эмілія ХВОЯ.

## 1900-я

Пачатак 20 стагоддзя яшчэ дыктаваў віктарыянскі стыль. Аднак у 1906 годзе пачалі насіць сукенкі без гарсэтаў.

У мужчынскай модзе пачатку стагоддзя быў класічны касцюм-тройка. Стыль задаваў прынц Уэльскі, які ўвёў стрэлку на штанах.

## 1910-я

У гардэробе з'явілася так званая кульгавая спадніца. Яна была завужаная данізу, таму хадзіць у ёй было даволі складана.

У мужчынскі гардэроб прыйшла мода на джазавы касцюм – тугі пінжак і штаны-дудачкі. У час сусветнай вайны ваенная форма папулярызавалася напоўніцу. Для салдат брытанскай арміі шылі спецыяльны непрамакальны плашч – трэнчкот.

## 1920-я

Гэта дзесяцігоддзе падарыла маленькую чорную сукенку і водар «Шанэль №5». Тон задае стыль арт-дэко.

У модзе рэчы з трыкатажу, заніжаная талія, строгая форма без ніякіх акругласцяў, капялюшыкі. Папулярныя егіпецкія матывы, плісіроўка, футравы каўнер. Упершыню з'явіліся купальныя касцюмы.

Для мужчын прапанавалі пакарочаныя шырокія штаны для гольфа, пад якія надзявалі доўгія шарсцяныя гольфы. Насіць гальштукі пад уіндзарскім вузлом, хустачкі ў нагрудней кішэні, карычневыя замшавыя туфлі і кепкі ў дробную клетку.

## 1930-я

Кіно пачало заваёўваць усё больш людзей. Ідэальную карцінку з экрана тысячы гледачоў імкнуліся перанесці ў рэальнасць. Яшчэ больш дысананс з жаданай прыгажосцю ўтварыла складаная грамадска-палітычная сітуацыя. Крызіс банкаўскай сістэмы і Вялікая амерыканская дэпрэсія, небяспечны ўсё больш пад'ём нацыянал-сацыялізму на чале з Гітлерам, вялізнае беспрацоўе і адкрытае жабрацтва.

У модзе шыкоўныя сукенкі з дарагіх тканін, чырвоная памада і складаная прычоска. Гандляваць пачалі праз каталогі, якія дасылалі па пошце.

Вельмі важнымі сталі аксесуары. Капялюшык, пальчаткі, сумка і абутак павінны былі быць у адным колеры. Чорныя ці карычневыя ў халодным перыяд, белыя летам.

У модзе масіўнасць верхняй часткі мужчынскага цела, захапленне аўтамабілямі і авіяцыяй. Таму многія насілі кепкі і скураныя шлемы, шапкі з лакіраванымі казыркамі.

## 1940-я

Вайна і эканомія – вось што кіруе тым, як выглядалі ў 40-я. Тканіны мала, крой лаканічны. Натуральныя тканіны не ішлі на грамадзянскія мэты, таму рэчы шылі з ацэтатнага шоўку і віскозы.

Зарадзіўся стыль пін-ап – выявы прыгожых паўаголеных жанчын на яскравых плакатах. Яны павінны былі падбадзёрваць салдат і падымаць настрой.

Для мужчын увялі кароткія курткі з накладнымі кішэнямі, насілі капелюшы з фетру, скураныя паліто.

## 1950-я

Калі закончылася вайна і свет пачаў аднаўляцца ад страшных падзей, захацелася адчування міру, надзеі і радасці. Яшчэ ў 1947 Крысціян Дзіёр прапанаваў жаноцкі сілуэт нью лук. Талію прапанавалі зацягнуць у гарсэт, а доўгая спадніца была надзвычай пышная.

Жанчына была вітрынай паспяховай сям'і, таму ад самай раніцы з макіяжам, ідэальнай прычоскай і на абцасах смажыць на пліты блінкі. Адбыўся бум на паслугі цырульні.

Абавязковым аксесуарам сталі шпількі і нейлонавыя панчохі са швом. Каштавалі яны дорага, а парвацца маглі ў імгненне.

У моду прыйшоў рок-н-рол, што прывяло да шаўковых касцюмаў і штаноў-клёш у мужчын, расшпіленых каўнароў. Насілі чаравікі з вострым носам, а на моду найбольш уплывае Італія.

## 1960-я

Пачалі масава выпускаць гатовыя мужчынскія касцюмы.

У модзе жыць напоўніцу і ні ў чым сабе не адмаўляць. Кіслотныя колеры і дзіўныя формы – гэта адпавядала захапленню хімічнымі наркотыкамі.

Міні-спадніцы – сімвал сэксуальнай рэвалюцыі і эмансіпацыі. Папулярнымі сталі штучныя тканіны, якія лепш мыюцца і не мнуцца. У модзе ўсё ненатуральнае – накладныя вейкі, шыньёны, біжутэрыя.

## 1970-я

Самым модным элементам сталі джынсы. Многія пад уплывам культуры хіпі насілі рваныя мадэлі. З'явілася панчоше базавага гардэроба.

Мужчыны пачынаюць насіць доўгія валасы і рознакаляровыя кашулі. У СССР насілі вадалазкі «лапша».

## 1980-я

Дзесяцігоддзе, калі ў модзе было спажыванне. Хацелася атрымаць як мага больш і абавязкова паказаць усё сваё багацце.

У Саюзе на піку джынсы «бананы» і «варонкі».

На стыль пачалі ўплываць музычныя накірункі. Гэта дзесяцігоддзе характарызуе слова «празмерна». У модзе хімічная завіўка, меліраванне пёркамі і мноства касметыкі яркіх адценняў з бліскаўкамі і перламутрам.

## 1990-я

Гэта дзесяцігоддзе ідзе пад знакам гераінавага шыку. Калі ў папярэдняе дзесяцігоддзе бязмерна спажывалі, то цяпер на першы план выходзіць практычнасць. Спартыўнае адзенне становіцца штодзённым.

Шматлікія субкультуры вызначаюць знешні выгляд падлеткаў і моладзі. У модзе зручнасць, а што можа быць больш зручным за джынс.

## 2000-я

Стракатыя колеры, стразы, бліскаўкі, заніжаная талія і паўаголенасць. Спалучалі неспалучальнае, эксперыментавалі хоць з чым. Экстрэмальна кароткі топ з паеткамі надзявалі са спартыўнымі штанамі і футрам.

Сучасная мода ўсё больш накіраваная на натуральнасць, прыняцце сябе, індывідуальнасць і разумнае спажыванне. •

● КАЛЯНДАР

16 ЛЮТАГА

**1895.** Нарадзіўся **Франц Кушаль** (в. Пяршаі, цяпер Валожынскі раён), вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША. Муж Наталлі Арсенневай.

17 ЛЮТАГА

**1888.** Нарадзіўся **Янка Вярсоцкі** (мяст. Гальшаны, цяпер Ашмянскі раён), рымска-каталіцкі святар, грамадскі дзеяч.

**1916.** Памерла **Цётка** (сапр. **Алаіза Пашкевіч**, па мужу **Кайрыс**), грамадска-палітычны дзеяч, паэтэса, асветніца, выдавец. Адна з пачынальніц беларускай прозы. Нарадзілася 15 ліпеня 1876 годзе.

18 ЛЮТАГА

**1979.** 40 гадоў з дня смерці **Юркі Гаўрука**, беларускага перакладчыка, паэта, літаратурнага крытыка, рэжысёра, вязня ГУЛАГу.

19 ЛЮТАГА

**1890.** Нарадзіўся **Казімір Сваяк** (сапр. **Канстанцін Стаповіч**; в. Барані, цяпер Астравецкі раён), каталіцкі святар, паэт.

**1905.** У Вене памёр **Якуб Наркевіч-Ёдка**, прыродазнавец, вынаходнік, медык. Зрабіў значныя адкрыцці ў галіне метэаралогіі (вымярэнне хуткасці руху аблокаў, вільготнасці глебы і інш.). Адкрыў у сваім маёнтку санаторый, распрацаваў метады лячэння нервовых захворванняў электрычным токам, метад электраграфіі для дыягностыкі захворванняў, выкарыстоўваў лячэнне кумысам, святлом, гімнастыкай, мясцовымі мінводамі.

**1979.** 40 гадоў з дня смерці **Янкі Геніюша**, грамадскага дзеяча, бібліяфіла, доктара, вязня ГУЛАГу.

20 ЛЮТАГА

**1940.** У Гродне адкрыўся настаўніцкі інстытут – першая ў Заходняй Беларусі вышэйшая навучальная ўстанова.

**1988.** Памёр **Павел Каруза**, грамадска-палітычны дзеяч, кампазітар, этнамузыказнаўца, вязень савецкіх канцлагераў. У 1947–1948 гадах працаваў у Доме творчасці ў Маладзечне.

21 ЛЮТАГА

**Міжнародны дзень роднай мовы**

**1939.** 80 гадоў назад у Вільні памёр **Вячаслаў Адамовіч**, дзеяч нацыянальнага руху, адзін з заснавальнікаў сялянскай партыі «Зялёны дуб». Нарадзіўся ў 1890 годзе ў Ашмянскім павеце.

**1974.** Памёр **Лявон Савёнак**, пісьменнік, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША. Скончыў у 1917 годзе Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

● ПАМІЖ КАМУНІСТАМІ І ФАШЫСТАМІ

# «Садралі пазногці і павыдзіралі валасы»

## Якім было жыццё ў ваенны час у ваколіцах Веркаўлянаў. Частка 5

*Працяг. Пачатак у №№3, 4, 5, 6.*

ВІЛЕЙКА

Суседзі-кампаньёны Казакевічы ім мала ў чым саступалі. Гэтыя гаспадаркі былі аднымі з галоўных пастаўшчыкоў малака ў Хаценчыцкую малачарню і мяса ў знакамітую кілбасную пані Высоцкай. Воўну вазілі ў Ракаў. Мясцовыя палеткі былі прыгодныя для вырошчвання лёну, ім засявалі значную іх частку.

Сваіх працоўных рук не хапала, наймалі людзей. А ахвотных папрацаваць у Сяనькоў ды Казакевічаў было шмат. Людзей вабіў добры заробак і паважлівыя адносіны з боку гаспадароў.

### Хто прыняў савецкую прапаганду

Наступіў 1939 год. Ужо ўлетку было цалкам зразумела, што вайна непазбежная. Панахабнаму актывізаваліся савецкія лазутчыкі-агітатары за падтрымку бальшавіцкай «вызваленчай» місіі.

Польскія паны і асаднікі масава пачалі з'язджаць у Польшчу, пакідаючы маёнткі і маёмасць. Распрадаць іх не было магчымасці, ніхто не купляў. Усе намагаліся дабро і нерухомасць хоць якім чынам перавесці ў золата і каштоўнасці.

Сянько і Казакевіч не вельмі хваляваліся, разлічвалі, што яны беларусы-заходнікі, а не палякі-акупанты. І па сваёй наіўнасці паверылі ў тлумачэнні бальшавіцкіх агітатараў, што мясцовым сялянам-асобнікам нічога не пагражае.

### Вайна на два франты

Усе з хваляваннем чакалі немінучых лёсавырашальных пераменаў. 1 верасня 1939 года гітлераўская Германія абрынула ўсю моц сваёй арміі на Польшчу. Нямецкая авіяцыя пачала руйнаваць польскія гарады з паветра, а наземнае войска змятала ўсё на сваім шляху да Варшавы.

Непадрыхтаваныя вайскоўцы амаль без супраціву здавалі пазіцыі. Польская ўлада тэрмінова распачала мабілізацыю ваеннаабавязаных Усходніх Крэсаў. Пад мабілізацыю патрапіў Міхаіл Сянько, яго накіравалі на Заходні фронт.

17 верасня савецкія войскі перайшлі савецка-польскую мяжу. Палякі адбіваліся на два франты, але сілы былі непараўнальна слабыя.

29 верасня войска польскае разбілі ўшчэнт. Сотні тысяч жаўнераў, сярод якіх было шмат беларусаў, загінулі. Хто застаўся ў жывых, патрапіў у палон. Хто да фашыстаў, а хто апынуўся ў савецкіх лагерах. 27 тысяч палонных афіцэраў войска польскага знішчылі, галоўным чынам, у Катыні, паблізу Смаленска.

### Першыя месяцы пад саветамі

Міхаіла Сянько ўзялі ў савецкі палон і адправілі ў ГУЛАГ. У 1941-м распачалася вайна і паміж саюзнікамі, Гітлерам і Сталінам. Міхаіл з савецкага лагера патрапіў у Армію Андэрса, у складзе якой прайшоў праз усю вайну. Удзельнічаў у баях пад знакамітым італьянскім Монтэ Касіна, пасля вайны застаўся ў Англіі. Дамоў не вярнуўся, бо цудоўна ведаў, што яго тут чакалі савецкія суды і лагеры.

Старэйшага брата Феадосія напаткаў падобны лёс, толькі па-свойму трагічны. Калі пасля 17 верасня 1939 года ўступіла ў свае правы савецкая ўлада, жыццё сялян не толькі ў Веркаўлянах, але і ў ваколіцах рэзка змянілася. Для адных прыход саветаў быў доўгачаканай і радаснай падзеяй, а для іншых, як для Сянькоў і Казакевічаў, час расчараванняў, смутку і трагізму.

По восені і ўзімку іх бальшавікі не чапалі, рабілі толькі перапіску гаспадаркі. Але праблема ўзнікла ў збыце дабра, малака, мяса. Кілбасная пані Высоцкай перастала працаваць, малачарня працавала, але з перапынкамі ў разліках. Малако пачалі перапрацоўваць у масла і тварог дома і вазіць разам з мясам на кірмашы Радашкавічаў, Маладзечна, Ракава.

### Як забіралі гаспадарку

Падобны збыт вялікай колькасці прадукцыі без напрацоўкі стабільнага рынку збыту не прыносіў прыбытку. Таму даводзілася адмаўляцца ад наёмных працаўнікоў і скарачаць гаспадарку. Бліжэй да вясны беззямельныя сяляне пачалі звяртацца да новай улады са скаргамі на заможных сялян, што тыя адмаўляюць у працы. Саветы не маглі не скарыстаць такі момант у сваіх інтарэсах і адразу ж расцанілі такія выпадкі як кулацкі сабатаж супраць улады.

Разборкі ўлады з «кулакамі» на карысць беднаты не прымусілі сябе доўга чакаць. Ужо вясной 1940 года ўлада наклала вета на зямлю і гаспадаркі Веркаўлянцаў, заможных сялян з Лоўцавічаў і на іншых. Жыўнасць амаль усю экспрапрыіравалі.

Частку кароў з веркаўлянскіх прыватных кароўнікаў перадалі бедным, а астатніх вывезлі ў калгасы за былую савецка-польскую мяжу, на ўсход. Меркавалі, што кароў Сянькоў і Казакевічаў перагналі ў Бабры, што на Лагойшчыне. У арганізаваны там прыезджымі з Расіі старавермі калгас.

### ГУЛАГ і НКВД

Гаспадаркі Сянько і Казакевіча былі цалкам зруйнаваныя, гаспадароў абклалі велізнымі падаткамі. Адпрацаваць савецкі аброк не хапала чалавечай сілы. Апошняя надзея на вяртанне з савецкага палону дадому Міхаіла знікла пад восень 1940-га. Ад яго прыйшоў ліст, напісаны з дарогі ў ГУЛАГ, у якім паведамляў: яго асудзілі на восем год за шпіёнскую дзейнасць на карысць польскай выведкі.

Гэты ліст ад яго пасля мабілізацыі быў другім і апошнім на доўгія гады. Першы даслаў яшчэ з Лідскага лагера ваеннапалонных ў лістападзе 1939-га. Як кажуць у народзе, адна бяда не ходзіць, яна за сабой іншыя водзіць.

Неяк у сярэдзіне восені надвячоркам у Веркаўляны прыехалі оперупаўнаважаныя НКВД і арыштавалі апошняга дарослага мужыка ў гаспадарцы, Феадосія Сянько. Феадось быў асуджаны на 10 год лагераў як раскулачаны, не выплаціўшы падаткі.

Як складаўся яго лагерны лёс і як ён вырваўся на волю, Тамары Васілеўне невядома. І сам Фёадось не меў вялікіх магчымасцяў распавядаць усе падрабязнасці. Вядома толькі, што ад пачатку вайны як былы жаўнер тэрміновай службы ў войску польскім з лагера патрапіў у армію генерала Андэрса. Там сустрэўся з братам Міхаілам, разам яны ваявалі ў складзе арміі на розных франтах да пераможнага 1945 года.

Пасля дэмабілізацыі на Радзіму вяртацца не рызыкнулі. Міхаіл застаўся ў Англіі, а Феадось з'ехаў у Амерыку. Там і пражылі ўсё сваё доўгае жыццё. Не забываў родных. Пры любой магчымасці дасылаў шмат падарункаў і грошы.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

*Заканчэнне будзе.*



Люцыя Высоцкая з дачкой Аленай Вайткевіч (на здымку) мелі сваю кілбасную ў Хаценчыцах.

● ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Мікалай Кірычэнка

**16 сакавіка народнаму артысту Беларусі, савецкаму і беларускаму акцёру, акцёру Купалаўскага тэатра Мікалаю Кірычэнку споўнілася б 73 гады. Яго не стала летась 14 жніўня, але памяць пра яго жыве.**



Фота kino-teatr.ru.

Ён нарадзіўся ў Маладзечне ў 1946 годзе ў сям'і ваеннага. Бацька – украінец, маці – армянка. Многія яго блыталі з Чэлентана, ён так быў падобны на яго.

У 1969 годзе скончыў акцёрскі факультэт Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Працаваў у Брэсцкім абласным драмтэатры. Ад 1971 года – у Купалаўскім. Ад 2005 да 2009 года быў дырэктарам Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Дацэнт Акадэміі мастацтваў, выкладаў на тэатральным факультэце. Лаўрэат прэміі Ігната Буйніцкага (1999). Лаўрэат Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2006). Кавалер ордэна Ламаносава (2006).

Ад 1971 года здымаўся ў кіно і серыялах. Сярод яго работ «Шчасце Нікіфара Бубнова», «Западня на зубра. Ягайла», сыграў доктара з фільма «Паляванне на гаўляйтара», Берыю ў карціне «У жніўні 44-га», баярына Хадасевіча ў «Анастасіі Слуцкай». А яшчэ «Чалавек, які ведаў усё», «Вольф Месінг», «Доктар смерць», «Акушэрка», «У сузор'і Стральца». Усяго ў яго творчай біяграфіі – больш за 80 роляў у тэатры і кіно.

Вось яго словы пра акцёраў яго маладосці і цяперашніх: «Я паступаў у 1965 годзе. У нас было больш рамантызму, а ў цяперашніх акцёрах больш прагматызму, але яны больш раскаваныя. Гэта не дрэнна і не добра. Цяперашняе пакаленне добрае, не буду абараняць ранейшы рамантызм і святое стаўленне да прафесіі. Гэта сышло – і гэта натуральна».

Акцёр цяжка хварэў, але працаваў да апошняга, часам злаваўся на сябе, што губляе фізічную форму, што лянота зрабіць лішні рух, а ленавацца з яго боку – злачынства. Праўда, мала хто знаў, што іграў на абязбольвальных. Вось што ўспамінаў пра яго калега народны артыст Віктар Манаеў: «Мы ігралі з ім у ліпені ў камедыі «Школа падаткаплацельшчыкаў». Ён казаў, што прымаў абязбольвальныя, іграў з жахлівым болем! Але я, нават знаходзячыся ў колькіх сантыметрах ад яго, не мог заўважыць тыя пакуту і боль, і гледачы не маглі. Наадварот, такая іскрамётнасць была, імправізацыя. Здавалася, хваробы проста не існуе, але яна была.

Пра асабістае акцёр не любіў расказваць. Вядома, што чатыры разы быў жанаты. Чацвертая жонка – Сняжана Кірычэнка. Яна на 20 гадоў маладзейшая за яго. У 50 гадоў стаў бацькам – нарадзілася дачка Кіра, яна з ранніх гадоў іграла ў тэатры. Казаў, што вось усе шукаюць нейкую формулу шчасця, а гэта ж так проста: «Жывіце і беражыце адзін аднаго, не рабіце нікому балюча».





## 8 канал

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 18 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 0.40** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ИВАН ВАСИЛЬЕВИЧ МЕНЯЕТ ПРОФЕССИЮ».**
**9.00** Д/с «Родовые проклятья».
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Д/ф.
**11.00** Х/ф **«ЗВЕЗДА ПЛЕНИТЕЛЬНОГО СЧАСТЬЯ».**
**13.55** Т/с **«ХВАРАН».**
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.20** Х/ф **«ГЛУБОКОВОДНЫЙ ГОРИЗОНТ».**
**20.00** Т/с **«МЕРТВАЯ ЗЫБЬ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«МОЛЧАНИЕ ЯГНЯТ».**
**23.15** Х/ф **«МОРСКОЙ ПЕХОТИНЕЦ».**

**ВТОРНИК, 19 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 1.15** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ГЛУБОКОВОДНЫЙ ГОРИЗОНТ».**
**9.10** Д/с «Дорога в школу».
**9.35, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Мой любимый питомец».
**11.00** Х/ф **«МОЛЧАНИЕ ЯГНЯТ».**
**13.00** Т/с **«МЕРТВАЯ ЗЫБЬ».**
**14.00** Т/с **«ХВАРАН».**
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.20** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПЕРЕГОН».**
**23.40** Х/ф **«ДРЕЙФ».**

**СРЕДА, 20 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 0.55** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**9.10** Д/с «Обучите моего питомца».
**9.35, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Китайский Новый год».
**11.00** Х/ф **«ВАМ ПИСЬМО».**
**13.00, 20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**14.00** Т/с **«ХВАРАН».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.20** Х/ф **«В СПОРТЕ ТОЛЬКО ДЕВУШКИ».**
**20.45** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«СХВАТКА».**
**23.15** Х/ф **«ЧИСТОЕ ИСКУССТВО».**

**ЧЕТВЕРГ, 21 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.00, 0.45** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«В СПОРТЕ ТОЛЬКО ДЕВУШКИ».**
**9.00** Д/с «Путешественник».
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Мультфильмы.
**11.00** Х/ф **«СХВАТКА».**
**13.00, 20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**13.55** Т/с **«ХВАРАН».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** «Мой любимый питомец».
**16.45** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.25** Д/ф «ГОРОД С ИСТОРИЕЙ».
**18.50** «Фешн is my профешн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«СПАСИБО, ЧТО ЖИВОЙ».**
**23.20** Х/ф **«ВЛЮБЛЕН ПО СОБСТВЕННОМУ ЖЕЛАНИЮ».**

**ПЯТНИЦА, 22 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.00, 0.40** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«СУПЕРГЕРОЙ».**
**9.00** Д/ф «ГОРОД С ИСТОРИЕЙ».
**9.30, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.25** «Рисуя Китай».
**10.50** Х/ф **«СПАСИБО, ЧТО ЖИВОЙ».**
**13.05, 20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**13.55** Т/с **«ХВАРАН».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.00** «Китайский Новый год».
**18.25** «Мой любимый питомец».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**

**СУББОТА, 23 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 18.55, 21.15, 1.05** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Дикая природа России».
**8.00** Мультфильмы «Леди и бродяга».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** Искусство-кино «О бедном гусаре замолвите слово».
**12.15** Х/ф **«ПЕРЕГОН».**
**14.40** «Отвечайка».
**14.45** Мультфильмы «Принцесса Мононоке».
**17.00** Х/ф **«ХОРИСТЫ».**
**18.40** «Друзья дедушки Марко».
**19.00** Х/ф **«БЛЕФ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ».**
**23.30** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 24 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 16.05, 19.00, 21.10, 23.50** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Дикая природа России».
**8.00** Мультфильмы «Принцесса лебедь».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Мой любимый питомец».
**10.00** «Китайский Новый год».
**10.30** Х/ф **«ИВАН ВАСИЛЬЕВИЧ МЕНЯЕТ ПРОФЕССИЮ».**
**12.00** Х/ф **«ИЩУ ДРУГА НА КОНЕЦ СВЕТА».**
**13.45** Х/ф **«СПАСИБО, ЧТО ЖИВОЙ».**
**16.10** «Смотрим всей семьей»: «Королевство кривых зеркал».
**17.35** «Мульт-парад».
**17.55** «Отвечайка».
**18.00** «Друзья дедушки Марко».
**18.15** Т/с **«КАСЛ».**
**19.05** Х/ф **«ВОЛНА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ВОЗВРАЩЕНИЕ ДОМОЙ».**



## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 18 ФЕВРАЛЯ**

**6.15** Песня на завтрак.
**6.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПРЕТ-А-ПОРТЕ».**
**7.55** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**10.00** Мая Радзіма.
**10.35, 15.15, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«КРАСОТКА НА ВСЮ ГОЛОВУ».**
**15.00, 18.00** Новости БЖД.
**17.40, 19.20** Будьте здоровы: зимний травматизм.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**20.20** Х/ф **«УРОКИ ВЫЖИВАНИЯ».**

**ВТОРНИК, 19 ФЕВРАЛЯ**

**5.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.10, 7.50, 8.15, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.25** Х/ф **«ИГРА В 4 РУКИ».**
**10.30** Х/ф **«ЖЕНЮСЬ НА ПЕРВОЙ ВСТРЕЧНОЙ».**
**12.00** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**13.25** Х/ф **«ОЧЕНЬ ОПАСНАЯ ШТУЧКА».**
**15.00** Х/ф **«ДЖЕНТЕЛЬМЕНЫ, УДАЧИ!».**
**16.50** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**17.35, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Спортлайф.
**20.20** Х/ф **«УРОКИ ВЫЖИВАНИЯ».**

**СРЕДА, 20 ФЕВРАЛЯ**

**6.05, 7.15, 9.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 17.40, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПРЕТ-А-ПОРТЕ».**
**10.35** Х/ф **«ШЕФ».**
**11.55** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**13.50** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**15.30, 19.15, 22.20** Мажорный лад.
**16.10** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ».**
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 21 ФЕВРАЛЯ**

**6.40, 7.15, 8.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.40** Смайлик.
**9.10** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**11.05** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПРЕТ-А-ПОРТЕ».**
**12.40** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**14.45** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**16.30, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Будьте здоровы: зимний травматизм.
**20.20** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**

**ПЯТНИЦА, 22 ФЕВРАЛЯ**

**5.20, 7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**10.00** Х/ф **«ДЖЕНТЕЛЬМЕНЫ, УДАЧИ!».**
**11.55** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**13.10** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**14.40** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**16.10, 19.30, 22.30** Мажорный лад.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**20.30** Музыкальная открытка.

**СУББОТА, 23 ФЕВРАЛЯ**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30, 19.30** Будьте здоровы: зимний травматизм.
**9.40** Х/ф **«КРАСОТКА НА ВСЮ ГОЛОВУ».**
**11.15** Х/ф **«ИГРА В 4 РУКИ».**
**13.00** Х/ф **«УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ».**
**14.40** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**16.15, 21.10** Новости БЖД.
**16.25, 22.30** Мажорный лад.
**20.30** Желаем вам.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 24 ФЕВРАЛЯ**

**6.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПРЕТ-А-ПОРТЕ».**
**7.50** Х/ф **«КРАСОТКА НА ВСЮ ГОЛОВУ».**
**9.25** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ».**
**11.00** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**12.55** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**14.35** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**16.10** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ».**
**17.45** Х/ф **«ИМЯ».**
**19.30, 22.20** Х/ф **«МАЖОРНЫЙ ЛАД».**
**20.20** Х/ф **«ЖЕНЮСЬ НА ПЕРВОЙ ВСТРЕЧНОЙ».**

# Хто выратаваў Барыса Кіта і навошта беларусам Нацыянальны ўніверсітэт

## Пра што гутарыў з маладзечанцамі Павел Севярынец

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёмага лютага ў Маладзечне прэзентаваў уласныя кнігі пісьменнік і палітык Павел Севярынец.**



Павел Севярынец.

Гутарылі пра творчасць, знакамітых жыхароў Маладзечна, пра будучыя прэзідэнцкія выбары. Пра тое, чаму ў рэстаране «Паедзем паядзім», што ў Курапатах пад Мінскам, шмат каму не лезе бясплатны плоў. Пра тое, што апошняя кніга Паўла «Каменнае сэрца» – зусім не жаночы раман, як некаторыя мяркуюць па назве.

### Горад недастраляных

Да Маладзечна ў Паўла Севярынца – асаблівае стаўленне. Выступоўца адзначыў, што Маладзечна са сталінскіх часоў лічыцца горадам недастраляных. Таксама заўважыў, што назвам вуліц тут мог бы пазайздросціць ці не любы беларускі горад і што Маладзечна – адзінае месца ў Беларусі, дзе ў свой час афіцыйна ўсталявалі помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсій.

На сустрэчы Павел прыгадаў дзеячаў партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», жыццё якіх было звязанае з нашым рэгіёнам. Напрыклад, ксяндза **Адама Станкевіча**, што нарадзіўся на тэрыторыі цяперашняй Смаргоншчыны. У касцёле святар звяртаўся да вернікаў па-беларуску.

– Вы ўяўляеце, што адчувалі селяніне? Ксёндз у касцёле гаворыць на той мове, на якой мужык гаворыць дома! Гэта быў нонсэнс, – адзначаў на сустрэчы пісьменнік.

А **Адам Дасюкевіч** – бургамістр Паставаў – падчас вайны выратаваў **Барыса Кіта**. Будучы дырэктарам настаўніцкай семінарыі ў Паставах, Кіт не даў нямецкаму афіцэру, каб студэнты прыбіралі трупы. За гэта афіцэр стрэліў у Барыса Кіта. Бургамістр Дасюкевіч выбіў пісталет з рук немца. Куля засела ў сцяне. А Барыс Кіт дажыў да 107 гадоў.

У 1947 годзе ў Маладзечна прыехаў фалькларыст і кампазітар **Павел Каруза**, каб збіраць народную творчасць. Але хтосьці данёс, што ў горадзе з'явіўся небяспечны элемент, які сябруе з нацдэмамі. У 1948-м Карузу забралі ў савецкі лагер.

### Кніга пра дзвесце феноменаў Беларусі

Кніга «Беларусалім», па словах Паўла, пра канец свету, што пачынаецца ў Беларусі. Тут мала фантастыкі, кажа пісьменнік. Гэта кніга пра жыццё. Тое, што Беларусь займае адно з першых месцаў па самагубствах, ужыванні алкаголю, колькасці жанчын у турмах, ці не ёсць гэта канец свету?

Некалькі перавыданняў з дапаўненнямі вытрымала кніга «Люблю Беларусь». У ёй – 200 феноменаў, па якіх нашу Айчыну пазнаюць у свеце. Іншымі словамі, 200 адказаў на пытанне, што такое Беларусь. Напрыклад, Беларусь – гэта «Песняры», гэта Еўфрасіння Полацкая.



Зала на сустрэчы была поўная.

Выданне дапаўняецца. У апошніх кнігах ёсць **Дар'я Домрачава** і **Вікторыя Азаранка**. Ёсць і **Аляксандр Лукашэнка**. Але не ў раздзеле «Знакамітыя палітыкі», а ў раздзеле «Спорт». Адзначана ў кнізе і імя лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі **Святланы Алексіевіч**.

– Вы ведаеце, колькі нобелеўскіх лаўрэатаў – выхадцаў з Беларусі? – звярнуўся Павел да прысутных.

І атрымаў правільны адказ – больш за дзясятак. А калі дакладна, то 18 чалавек. Большасць з іх – беларускія яўрэі.

### «Каменнае сэрца» – кніга пра турму, а не пра каханне

Апошняя кніга Паўла Севярынца – «Каменнае сэрца». Гэта не жаночы раман, як некаторыя мяркуюць па назве. Гэта зборнік турэмнай лірыкі. У кнігу ўвайшлі творы, напісаныя ў турме ад 1997 года. А каменным сэрцам называюць турму-«амерыканку» ў цэнтры Мінска.

Расказаў Павел і пра абарону Курапатаў. Пра тое, што рэстаран «Паедзем паядзім» цярпіць страты, што людзі не ідуць нават на бясплатны плоў, які прапануюць там па акцыі. Некаторыя прыязджаюць у рэстаран, але, пачытаўшы лістоўку, што даюць актывісты, разварочваюцца і з'язджаюць.

### Такі неабходны нацыянальны ўніверсітэт

На сустрэчу прыйшло за 30 чалавек. Пасля выступлення былі пытанні. Запыталіся, ці робіць Павел і яго паплечнікі нейкія высновы з папярэдніх памылак.

Павел адказаў, што такі досвед ёсць. Адной з значных памылак назваў тое, што ў Беларусі не змаглі адчыніць Нацыянальны ўніверсітэт:

– Такая ўстанова неабходная. Там працавалі б лепшыя выкладчыкі, вучыліся б лепшыя студэнты. Варта было зрабіць так, каб у гэту ўстанову былі чэргі, як цяпер чэргі ў 23-ю беларускамоўную гімназію Мінска. Тады б і сітуацыя з мовай, і ўвогуле сітуацыя ў краіне змянілася б да лепшага.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Аляксей Туровіч расказаў пра дзяцінства без бацькоў, турму і кіназдымкі ў Смаргоні

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ

**Не так даўно жыхары мікрараёна Карані ў Смаргоні бачылі пушкі і салдат у форме Першай сусветнай вайны. Тут здымаў кіно рэжысёр са сталіцы Аляксей Туровіч.**



Акцёры пазіруюць у перапынку паміж здымкамі.

Наш рэгіён – Ашмяны, Смаргонь, Вілейка, Маладзечна – не чужыя Аляксею. Як не чужыя тэмы Першай сусветнай і сталінскіх рэпрэсій.

## У Карлаўшчыне было сапраўднае дзяцінства. Толькі без бацькоў

У тры гады Аляксей трапіў у Карлаўскі дзіцячы дом, што каля вёскі Семернікі на Ашмяншчыне.

– Менавіта з Карлаўскім дзіцячым домам у мяне звязаныя самыя прыемныя дзіцячыя ўспаміны. Тут было сапраўднае дзяцінства, толькі без бацькоў, – прыгадвае Аляксей. – Гэта прыгожае, проста містычнае месца. Побач возера. Тут вельмі добра адносіліся да нас, дзяцей. Пра тыя гады я зняў фільм «Мая Карлаўшчына».

У Карлаўскім дзіцячым доме Аляксей жыў да сямі гадоў. У 1966-м установу расфарміравалі. Прыехала некалькі грузавых машын і дзяцей перавезлі ў дзіцячы дом у Воранаве. Тут хлопец правучыўся першы клас, а пасля трапіў у такую ж установу ў Ашмянах. У ёй выхоўваўся і родны брат Аляксея **Віктар Туровіч**.

## Не разумеў, чаму павінны быць, як усе

– Усе дзеці ў маёй мамы былі ад розных бацькоў. Мы гадаваліся ў дзіцячых дамах. Маці наведвала нас раз на год. І спрыяла таму, каб мы, браты, былі разам, – кажа мой субяседнік.

У Ашмянах хлопец вучыўся ў школе. Кажа, бянтэжыла савецкая ідэалогія, не разумеў, чаму дзяцей выхоўвалі, як робатаў, чаму ён павінны быць такім, як усе. Пасля школы адвучыўся ў Вілейцы на трактарыста. На Вілейшчыне быў на практыцы ў вёсцы Асавец, што побач з Куранцом.

Працаваць пачынаў у калгасе ў Насілаве, што на Маладзечаншчыне. Жыў на кватэры ў вясковых гаспадароў у Засценках. Яны навучылі яго сялянскай працы: касіць і складаць сена, даглядаць за жывёлай.

Пасля войска шмат ездзіў па свеце.

## Як прыйшоў у кіно

– У 1995 годзе вярнуўся ў Беларусь, у Мінск, – прыгадвае Аляксей. – У адной з газет убачыў аб'яву, што тэатр-студыя кінаакцёра пры «Беларусьфільме» набірае на вучобу. Тэатр мне падабаўся. Калі жыў у Ніжневартаўску, быў акцёрам-аматарам.

Так Аляксей трапіў на курс да **Ігара Дабралюбава** – рэжысёра, які здымаў «Белыя Росы». Вучыўся стацыянарна. Атрымаў дыплом акцёра тэатра і кіно. Зняўся ў фільмах «Кветкі правінцыі», «Эпілог», разам з Мікалаем Яроменкам – у фільме «Сын за бацьку». Як пазаштатнік шмат працаваў на тэлебачанні.

## Чаму пяцёра не маглі скруціць аднаго

Рэжысёрам Аляксей стаў працаваць ад пачатку 2000-х. Зняў фільмы «Адзін, зусім адзін», «Сынок», «Яблык поўні». Найбольш маштабная праца рэжысёра Туровіча – фільм «Жоўты пясочак» па творы Васіля Быкава.

– Неяк я апынуўся ў вельмі складанай жыццёвай сітуацыі, сядзеў у турме. І даў сабе слова: калі выжыву, абавязкова здыму «Жоўты пясочак», бо адчуваў сябе вельмі падобным да яго герояў.

Сюжэт апавядання просты: работнік НКВД вязе з турмы на машыне пяцярых чалавек: розных па ўзросце і сацыяльным статусе. Сярод іх і селянін-аднаасобнік, і шчыры камуніст, і звычайны маскоўскі злодзей. Усіх чакае адно – расстрэл.

– Многія пыталіся: як так можа быць, што пяць чалавек не скруцілі аднаго энкавэдзіста і не збеглі? – кажа Аляксей. – А я разумею: гэта былі людзі, якіх сістэма зламала маральна.

## Фільм «На смаргонскім фронце без змен» здымаў за свае грошы

Сёння рэжысёр ужо адзняў матэрыял да фільма «На смаргонскім фронце без змен» – гульнявое кіно пра Першую сусветную. У фільме – падзеі 1915 года на Смаргоншчыне, калі гінула шмат людзей, былі вялікія газавыя атакі.

Аднак фільм не столькі пра вайну, колькі пра стан душы чалавека на вайне, кажа Аляксей. У аснове сюжэта – гісторыі артылерыста **Генадзя Маркоўскага**. У 1915 ён пайшоў добраахвотнікам у расійскае войска і адразу трапіў на лінію фронту ў Смаргонь. Адсюль ён піша лісты сваёй дзяўчыне **Ніне**. Расказвае пра жахі і бессэнсоўнасць вайны. Генадзь Маркоўскі выжыў у той вайне. На яго ўспаміны Аляксей Туровіч натрапіў у архівах.

Фільм рэжысёр здымаў за свае грошы: якраз прадаў нерухомасць. Кажа, звяртаўся «Беларусьфільм» па дапамогу, але яе не атрымаў.

– Фільм здымаў па ўласным сцэнарыі. Паказаў там Аляксандру Талстую, – кажа Аляксей. – Смаргонь вельмі пацярпела ў той вайне, уся была разбураная. Застаўся толькі касцёл.

## Форму прымераў, але не здымаўся

Сам Аляксей на здымках прымераў форму



Аляксей Туровіч.

афіцэра Першай сусветнай, але не здымаўся, было шмат рэжысёрскай працы. Кажа, можа з'явіцца недзе ў кадры на паўхвілінкі.

Вядомых акцёраў у фільме няма. Па словах Аляксея, на іх не хапіла б грошай. Але незнаёмыя твары ў кадры, на думку рэжысёра, таксама добра. Тым больш, практычна ўсе згодныя былі працаваць на валанцёрскіх пачатках.

Цяпер трэба адабраць матэрыял, змантаваць яго. А гэта працы, як мінімум, на год.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота забяспечанае Аляксеем ТУРОВІЧАМ.**

ТЭМА НУМАРА

# Калі пачулі імя Альгерд, думалі, што мы – немцы

## Як жывуць людзі з беларускімі імёнамі

**Сярод маіх герояў – дарослыя людзі і немаўля, школьнік, журналістка і паэт. А аб'ядноўваюць іх усіх незвычайныя імёны… Хаця, магчыма, якраз звычайныя. Самыя звычайныя беларускія імёны.**

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

### Рагнед з Мядзельшчыны: Бацькі хацелі дзяўчынку Рагнеду

Паэт Рагнед Малахоўскі жыве на Мядзельшчыне. Нарадзіўся ў 1984 годзе ў Магаданскай вобласці. У сям'і ўжо гадаваўся старэйшы брат са звычайным імем **Дзяніс**.

Бацькі замест хлопчыка чакалі дзяўчынку. Вырашылі назваць дачку **Рагнедай**, як полацкую князёўну. Ды толькі нарадзіўся хлопчык. Але я ў гэтым не вінаваты, часта падкрэслівае Рагнед.

Бацькі, **Юры і Людміла Малахоўскія**, вырашылі трансфармаваць імя Рагнеда ў мужчынскае. У мясцовым ЗАГСе здзівіліся, калі бацькі прыйшлі рэгістраваць сына. Але бацька пераканаў рэгістратарак, што ў Беларусі гэта распаўсюджанае мужчынскае імя.

Пасля сям'я вярнулася ў Беларусь. У школе хлопчыку не перашкаджала яго імя. Хутчэй наадварот: Рагнед заўсёды лічыў, што з такім незвычайнам імем проста павінен быць неардынарнай асобай. Сёння паэт Рагнед Малахоўскі мае некалькі паэтычных зборнікаў, займаецца вершаванымі перакладамі, піша музыку.

### Адэля з каранямі з Маладзечаншчыны: у літоўцаў імя асацыявалася з бабулькай

Журналістка **Адэля Дубавец**, дачка паэткі з Маркава **Таццяны Сапач** і журналіста **Сяргея Дубаўца**, цяпер з сям'ёй жыве ў Кіеве.

– Бацькі назвалі мяне іменем мамінай бабулі. Прабабулю **Адэлю** я добра памятаю: каталічка, аптымістка з Вілейшчыны. Яна размаўляла на суперпрыгожай беларускай мове і ўсе лісты пісала лацінкай, – прыгадвае Адэля. – Супраць майго імя выступалі мае бабулі. Адна з іх – Адэліна дачка, **Марыя**. Ім, відаць, здавалася, што яно занадта вясковае.

Адэля гадавалася ў Вільні. У шматкультурным горадзе на імя дзяўчынкі ніхто асаблівай увагі не звяртаў.

– І ўсё ж часам літоўцы здзіўляліся. У іх Adelė асацыявалася з вясковай бабулькай, – дзеліцца жанчына.

Калі ў 2000-я Адэля Дубавец прыехала вучыцца ў Мінск, яе імя было экзотыкай. Усе прасілі паўтараць яго па літарах, а хтосьці адразу запамінаў, як Анжэлу.

У сям'і Адэлю скарочана называюць Адзяй. Але ад менш блізкіх людзей такі варыянт імя ёй чуць непрыемна. Кажа, што ніколі не ўспрымала сябе Адэлькай.

Імя сваё Адэля любіць. Толькі ў дзяцінстве крыху адчувала дыскамфорт з-за пастаяннай увагі да яго, а потым прызвычаілася, што лёгка не будзе. Ва Украіне, дзе Адэля жыве цяпер, рэакцыя на імя заўжды аднолькавая: «Як-як? О, якое прыгожае імя!»

У Адэлі з мужам **Паўлам** – дачка і сын – **Зоя** і **Юльян**. Зоя – па імені Адэлінай бабулі, Юльян – у гонар дзядулі мужа.

– Для мяне гэта натуральная сітуацыя – каб імёны жылі ў сям'і, пісалі яе гісторыю, радавод, – падсумавала субяседніца.

### Верас з Вілейкі захапляецца гісторыяй, маляваннем, музыкай

**Верасу Лужынскаму** амаль 11 гадоў. Хлопчык жыве ў Вілейцы. Ласкавыя імёны – Верык і Верасок.

– Імя Верас у беларускай прасторы – мая даўняя мара, – кажа мама хлопчыка, **Эла**. – Калі ў іншых народаў існуюць Эрык, Хіт, што ў перакладзе значыць Верас, то чаму не можа быць Вераса ў краіне верасоў?

Як расказала Эла, асаблівага абрання імя не было. Проста вырашылі, што будзе Верас. Эла і яе муж Аляксей цалкам раздзялялі погляды і на імёны, і на беларускасць. Для бацькоў яшчэ было важна, што імя па гучанні моцнае, шчырае, для мужчыны – у самы раз. Калі б нарадзілася дзяўчынка, магчыма, назвалі б **Вяйлянай**.

– Вельмі падабаецца назва ракі Вялля, – дзеліцца Эла.

Сваякі па-рознаму ўспрынялі імя. Адны – станоўча. Іншыя – больш крытычна, але з часам прывыклі і ўпадабалі. З рэгістрацыяй Вераса ў ЗАГСе праблем не ўзнікла. Тут вельмі добрыя супрацоўнікі, адзначае Эла.

Імя многія ўспрымаюць не як беларускае, а як балцкае, літоўскае. Мы не аспрэчваем, а калі чалавек з шырокім кругаглядам, можам распавесці ўсю праўду пра імя, кажа Эла. У яго аналагаў дастаткова, цікавая індаеўрапейская гісторыя і міфалогія.

Сам Верас сваё імя ўспрымае спакойна. Ведае, што па-англійску можа называцца Эрык. Часам так і робіць.

Верас Лужынскі вучыцца ў пятым класе, захапляецца гісторыяй, маляваннем, праграмаваннем, тэхнікай, вучыцца іграць на гітары і флейце.

### Бацькі Альгерда і Тодара з Маладзечна: у ЗАГСе пыталіся, ці добра мы падумалі

Браты **Альгерд** і **Тодар Палонскія** – самыя маленькія з нашых герояў. Альгерду – тры з паловай гады, Тодару – тры месяцы. Пра імёны хлопчыкаў і пра іх саміх гутарым з бацькам **Юрыем Палонскім**.

– Калі з жонкай **Вольгай** чакалі першага сына, адразу вырашылі, што дадзім яму імя чалавека, які шмат значыў для гісторыі Беларусі, быў знакамітай асобай. У той жа час хацелася, каб імя не было распаўсюджаным. Спыніліся на вялікіх князях. Сярод маіх знаёмых ужо былі Вітаўты, а вось Альгерда не было. Таму першага сына назвалі менавіта так. Хочацца, каб наш Альгерд ганарыўся сваім імем. Каб, указваючы яму на яго дрэнныя ўчынкі, мы маглі б сказаць: навошта ты так робіш, ты ж маеш такое слаўнае імя, – кажа Юры.

Калі ў сям'і чакалі другое дзіця, былі ўпэўненыя: народзіцца дзяўчынка. Абралі імя **Адэля**. Але нарадзіўся хлопчык. Яму далі імя Тодар. Гэта старэйшы сын князя Альгерда, таксама знакамітая для гісторыі Беларусі асоба.

– Калі рэгістравалі Альгерда, у маладзечанскім ЗАГСе казалі: ды выберыце вы нармальнае імя. Калі ж прыйшлі рэгістраваць Тодара, у нас пыталіся, ці добра мы падумалі, – прыгадвае Юры.

Калі сям'я гуляла з Альгердам і прахожыя пачулі, як завуць хлопчыка, падышлі і спыталі: «Вы – немцы?».

Бабулі і дзядулі хлопчыкаў імёны ўспрынялі са здзіўленнем. Але цяпер прывыклі і нават ганарацца, што ўнукі ў іх не як ва ўсіх, а Тодар і Альгерд. А ласкава хлопчыкаў называюць Альгердзік і Тодзік.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Юрыя ПАЛОНСКАГА.

Бацькі хочуць, каб Альгерд і Тодар ганарыліся сваімі імёнамі.



Фота facebook.com.

Рагнед Малахоўскі – паэт з Мядзельшчыны.



Фота facebook.com.

Адэля Дубавец – дачка паэткі Таццяны Сапач з Маладзечаншчыны.

# Як хлопец з расійскім пашпартам стаў беларускім гісторыкам

**Віталя Назарэвіча можна сустрэць на вечарах беларускіх танцаў ці на курсах «Мова Нанова» ў Маладзечне. Можна перасекчыся з ім у этнаграфічнай экспедыцыі або на археалагічных раскопках. Адным словам, ён заўсёды ў тых месцах, дзе беларуская мова і культура выходзяць на першы план.**

МАЛАДЗЕЧНА

Яго беларускамоўнасць і цікаўнасць да гісторыі абсалютна арганічная. Таму зусім нечакана аднойчы даведацца, што Віталь пераехаў у Беларусь 12 гадоў таму і сам вывучыў беларускую мову.

Пра тое, як паляшук 19 гадоў пражыў на беразе мора, а пасля пановаму адкрываў для сябе Беларусь, Віталь распавёў «Рэгіянальнай газеце».

### У Маладзечне нарадзіўся выпадкова

**– Як так атрымалася, што ты большую частку свайго жыцця правёў у Расіі?**

– Маю сям'ю з Беларусі пагнаў Чарнобыль. Бацькі жылі ў зоне адчужэння, пад Нароўляй. Мама і тата былі аднакласнікамі, жылі ў адной вёсцы – Цешкаў.

Бацьку прапанавалі на выбар – Мінск, Маладзечна ці Новарасійск. У гэтых гарадах былі філіялы завода, на якім ён працаваў. Бацька выбраў горад на Чорным моры. Мы былі не адзінай такой сям'ёй, у Новарасійск патрапіла шмат беларусаў. Але бяда ў тым, што беларусы вельмі хутка асімілююцца. Амаль імгненна становяцца расіянамі.

**– Там ты і нарадзіўся?**

– Не, я нарадзіўся ў Маладзечне, прычым абсалютна выпадкова. Тады паміж Беларуссю і Расіяй былі танныя самалёты, і мама часта лятала да сястры, якая жыла ў Маладзечне. І вось на апошніх месяцах цяжарнасці нешта пайшло не па плане, і я нарадзіўся менавіта тут. Хто ж ведаў, што праз 19 гадоў я вярнуся і буду тут жыць?

Зарэгістравалі маё нараджэнне ўжо ў Новарасійску, але па факце гэта адбылося ў Маладзечне.

**– Ці даводзілася чуць беларускую мову ад бацькоў, жывучы ў Расіі?**

– Мама размаўляла на палескай гаворцы, ужывала шмат мясцовых слоўцаў, якія цяпер і не прыгадаю. Яна саромелася свайго акцэнту, хаця мы жылі фактычна на Кубані – там народ таксама «гэкае». Таму з часам яна свядома перайшла на чыстую рускую мову, каб не прыцягваць увагі.

А я ўвесь час ездзіў да бабуль на Палессе. Там таксама наслухаўся і набраўся розных гаворак.

Памятаю, дзед часам злаваўся на мяне: скажа мне нешта напалову беларускае, а я не разумею. І ён пачынаў – «як можна не ведаць нармальныя чалавечыя словы?!» Бабуля тады заступалася – «ён жа ў Расіі жыве, адкуль яму ведаць».

**– А ці было наадварот, што ў Расіі ты вылучаўся з-за беларускасці?**

– У школе я быў адным з нямногіх, у каго прозвішча заканчвалася на -іч. Больш было прозвішчаў армянскіх ці казахскіх. І я заўсёды падкрэсліваў, што я беларус. Да бабуль ездзіў кожнае лета, таму цудоўна разумеў, адкуль я.

Але ў расійскай школе дзеці не надта разумеюць, што такое Беларусь. Аднойчы я сустрэў аднакласніц пасля таго, як мы скончылі школу, і сказаў, што цяпер жыву ў Мінску. На што яны адказвалі – «О, Мінск! Гэта ж Украіна, так?»

**– Да пераезду ў Беларусь ты зусім не гаварыў па-беларуску?**

– Так. Часам бачыў недзе словы «сшытак», «дзённік». І ў мяне было такое ўяўленне, што беларуская мова – гэта руская з памылкамі. Я нават «вучыў» сваіх расійскіх аднакласнікаў – бярэш слова «тетрадь» і пішаш – «цітрадзь». І паўсюль замяняеш рускае «и» на «і» беларускае. Вось табе і ўся навука! Беларускую мову можна і не вывучаць, проста гавары па-руску з памылкамі!

**– Калі твая сям'я апынулася ў Маладзечне?**

– У Беларусь мы пераехалі ў 2007 годзе пасля таго, як памёр бацька. Яму было 37 гадоў, не вытрымала сэрца. Гэта было з Чарнобылем звязана. І калі мама засталася адна з двума дзецьмі, ёй стала цяжка гадаваць нас з сястрой. Уся радня была ў Беларусі. Раптоўна мы ўзялі і пераехалі. Некалькі гадоў жылі ў Чысці, потым у Маладзечне.



Фота забяспечанае Віталем НАЗАРЭВІЧАМ.

Віталь Назарэвіч.

### «Без моўнай практыкі выглядаеш, як затарможаны дурань»

**– Многія беларусы не лічаць патрэбным ведаць беларускую мову. Маўляў, навошта, калі па-руску ўсе разумеюць. Што ж падштурхнула цябе?**

– Мне неяк у рукі трапілася кніга з кароткім курсам па гісторыі Беларусі. Кніга 1993 года, з «Пагоняй» на вокладцы. Яна была для мяне сапраўдным адкрыццём.

У курсе гісторыі ў расійскай школе ВКЛ згадваецца літаральна некалькі разоў. У кантэксце таго, што гэта вораг і што гэта літоўская дзяржава. Мы чулі «літоўская» і думалі пра сучасную Літву. Думкі пра Беларусь у кантэксце ВКЛ не ўзнікала.

І тут гэта кніга, яна адкрыла перада мной цэлы гістарычны пласт. Я зацікавіўся гісторыяй. Пачаў чытаць кнігі і слухаць радыё па-беларуску. У выніку паступіў на гістфак БДУ і стаў гісторыкам-архівістам.

**– Якімі былі твае наступныя крокі ў беларускай мове?**

– Курсы «Мова Нанова» ў Маладзечне. Слухаць і чытаць было класна, але мне вельмі не хапала моўнай практыкі. Усё роўна ў галаве я працягваў перакладаць з рускай на беларускую і выглядаў, як нейкі затарможаны дурань.

Быў страх перад тым, каб сказаць няправільна. Калі на «Мове Нанова» былі апытанкі, то я хваляваўся, ці паспею сфармуляваць сваю думку, пакуль да мяне дойдзе чарга? Таму цудоўна разумею тых, хто баіцца пачаць гаварыць па-беларуску з-за памылак.

**– Ці атрымалася на курсах нагаварыцца па-беларуску?**

– Там у мяне з'явілася сяброўка, з якой пачалі размаўляць па-беларуску і выпраўляць адно аднаго.

А пасля патрапіў на беларускія народныя танцы, якія ладзіў гурт «Кола» і **Воля Трубач**. Дзякуючы танцам трапіў у беларускамоўнае асяроддзе і зразумеў, наколькі гэта цікавыя людзі. З імі ў мяне знік страх памылак.

Сярод новых знаёмых было шмат тых, хто цікавіцца этнаграфіяй. Яны абсалютна не цураліся русізмаў і трасянкі, бо разумелі, што гэта натуральны элемент мовы. Калі б не трасянка, то шмат дзе беларуская мова знікла б цалкам.

Калі сустракаеш людзей, хворых на граматыку, якія папраўляюць кожнае слова, гэта адбівае ўсякае жаданне вучыць мову. Але маючы падтрымку, я сам не заўважыў, як пачаў размаўляць па-беларуску.

**– Сёння ты гаворыш па-беларуску толькі з пэўным колам сяброў ці з незнаёмцамі таксама?**

– Неяк па твары чытаю, ці гатовы чалавек успрымаць беларускую мову. Напрыклад, у краме я па прадаўцах заўсёды вызначаю, да якой лепш не падыходзіць з мовай, а да якой можна. Але бывае і памыляюся.

### Беларусы больш сонечныя, чым многія людзі з поўдня

**– Ты змяніў краіну ўжо ў свядомым узросце. Ці ёсць нешта, чаго табе не хапае тут?**

– Першы час мне не хапала мора і гор. Часам глядзеў удалячынь і ў контурах аблокаў бачыў горы. Гэта кампенсую, хаця б раз на год бываю на моры ў Новарасійску.

Людзі ў Беларусі сапраўды іншыя, дабрэйшыя. Можа, гэта дзіўна прагучыць, але для мяне яны больш пазітыўныя і сонечныя. І больш рэлігійныя. Адкрыццём сталі каталікі. Раней мае стасункі толькі з праваслаўнымі і мусульманамі.

**– У цябе да сёння расійскі пашпарт. Чаму не памяняў яго на беларускі?**

– Мы не бачым у гэтым сэнсу. Спачатку былі думкі пра падвойнае грамадзянства, але беларускае заканадаўства гэтага не дазваляе. Мне хапае пасведчання на права жыхарства. З расійскім пашпартам можна без візы ляцець у большую колькасць краін, а шэнгенская віза каштуе танней (для беларусаў – 60 еўра, для расіян – 35 еўра. – Аўт.). Праўда, магчымасцю яшчэ не скарыстаўся, але гэта думка грэе.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

# Што рабіць, калі муж вярнуўся з камандзіроўкі, а ты палюбоўнік?

## Якім было самае няўдалае спатканне маладзечанцаў

**Ідэальнае спатканне – сустрэча двух закаханых, зацікаўленых адно адным. Іх вочы шчасліва блішчаць, на вуснах – радасная ўсмешка. Але часам здараецца, што сустрэча пары ператвараецца ў сапраўдную катастрофу. Мы распыталі жыхароў горада, якія непрыемнасці здараліся з імі падчас спатканняў.**



Інфаграфіка Уладзіміра САМОХІНА.

МАЛАДЗЕЧНА:

**Эдуард:**

– Гадоў дзесяць таму ўгаварыў сустрэцца адну дзяўчыну. У цэлым не звярнуў увагі, чаму так хутка, без дамаўленняў яна пагадзілася на сустрэчу. Без лішняй думкі прыйшоў ва ўмоўленае месца. Прачакаў 15 хвілін. У выніку даведаўся, што тая дзяўчына нікуды ісці і не збіралася. Яна знаходзілася са сваёй сяброўкай на балконе ў доме па суседстве і хіхікала. Пасля гэтага выпадку давер да жаночага полу паменшыўся.

**Іван:**

– Напэўна, у кожнага бываюць няўдалыя спатканні. У мяне такіх было цэлых тры. У 15-16 гадоў сябар прапанаваў пазнаёміць мяне з крутой дзяўчынай. Пайшлі на спатканне. На сустрэчу прыйшла адна дзяўчына. Сказала, што ў іх з сяброўкай свабодная кватэра. Але каб трапіць туды, нам трэба купіць прыгажуням піўка. Грошы былі толькі ў мяне, набыў у шапіку «разагрэў», прадавец паклала яго ў пакет. Бачна было, што дзяўчына размаўляць з намі не асабліва хоча. Яна папрасіла сама паднесці пакет. Узяла ў рукі і ўцякла. Мы з сябрам былі ў шоку і таму даганяць не сталі. Мабільнік дзяўчына больш не здымала.

Другі выпадак здарыўся ў мае 17. З іншым сябрам паехалі ў Паставы. Гулялі па парку і сустрэлі на лаўцы нейкіх дзяўчат. Адна мне ўсміхнулася, сказала, сумавала па мне. А я яе ўпершыню бачыў, таму павітаўся і пайшоў далей. Дзяўчына ж падбегла да мяне, пазнаёміліся, было прыкольна. Падчас прагулкі мне патэлефанаваў сябар і папрасіў падысці на ўскраіну парку, дзе нас збілі, невядома чаму. Мяне так адзіны раз у жыцці пакалацілі, кроў цякла з галавы, хадзіць не мог. Дзяўчына, якая была са мной, збегала ў начную краму, набыла мінералку, вымыла мяне. Потым выходжвала на лаўцы.

У 21 год здарылася трэцяе няўдалае спатканне. Сустрэў у парку дзяўчыну, яна мне спадабалася, абмяняліся тэлефонамі. Праз тры дні новая знаёмая патэлефанавала сама і запрасіла ў госці. Папярэдзіла, што замужам, але муж у камандзіроўцы і з'явіцца не хутка. Падумаў, чаму б не прыйсці. Па яе просьбе набыў піва з чыпсамі, прыйшоў. Сустрэла мяне прыбраная, прыгожая. І шэпча: «У мяне тут дзіця маленькае спіць, цішэй». Акуратна ідзём у спальню, там свечкі гараць, а я ў шоку, наколькі дрэнна яе ведаю. Сядзім, п'ём, размаўляем. Потым яна здымае халат, пад ім – прыгожая камбінацыя і панчохі. Ускоквае мне на калені, цалуемся. І толькі зняла з мяне майку – чую, як адчыняюцца дзверы. Разумеем, што гэта муж. Класічны выпадак. Дзяўчына хутка апранае халат і ляціць да мужа. Я нацягваю майку і думаю, што рабіць. Пяты паверх усё ж. Таму наліваю піва і чакаю мужа. Нарэшце ён заходзіць, бачыць мяне і... радасна лезе абдымацца. Аказваецца, з гэтым чалавекам мы пазнаёміліся неяк раней на адной з тусовак, разам пілі і знаёміліся з дзяўчатамі. Я паняцця не меў, што ён жанаты. Што адбываецца, знаёмы не зразумеў, нават пажартаваў: «Крута, што забаўляеш маю жонку, пакуль я ў камандзіроўцы». Потым пакінуў нас з дзяўчынай і пайшоў спаць. А пасля яе пытання, калі ўжо зоймемся сэксам, пайшоў дадому і я.

**Таццяна:**

– У школе мне вельмі падабаўся аднакласнік, але нічога з ім не атрымалася. Пасля заканчэння школы не бачыліся амаль сем гадоў. Звычайна я збіраю людзей на вечар сустрэчы выпускнікоў, пішу, тэлефаную ўсім. Сёлета таксама напісала ў сацсетцы некалькім аднакласнікам, у тым ліку таму, хто падабаўся. Ён адказаў, што знаходзіцца ў іншай краіне, прыехаць у Маладзечна не паспее, але будзе ў горадзе праз два дні пасля вечара сустрэчы, таму зможам сустрэцца пазней. Запрасіў на каву і ў кіно. Вядома, пагадзілася, падумала, нарэшце будзе шанец з ім «замуціць». У дзень сустрэчы па тэлефоне дамовіліся, дзе «зляцімся». І вось вырашальны час наступіў. Прыйшла на месца сустрэчы, а было восем вечара, цёмна. Бачу, выходзіць з машыны нейкі чалавек, падыходзіць да мяне і кажа: «Вітаю». Далей дыялог вар'ятаў:

– Вітаю.

– Ну што, пойдзем?

– Куды? Ты хто?

– Той, з кім ты размаўляла.

Нямая паўза. Чужы чалавек цёмным вечарам хоча зацягнуць мяне ў машыну.

– Я размаўляла з іншым чалавекам, – развярнулася і пайшла дадому.

Выпадак з рубрыкі «ты не паверыш». Аказваецца, у «сябрах» у сацсетцы ў мяне знаходзяцца два чалавекі з аднолькавымі іменамі і прозвішчамі. Калі шукала аднакласніка для запрашэння ў школу, першым трапіўся ў пошуку ледзь знаёмы хлопец, якога ні разу не бачыла. Зразумела, фотаздымкі на старонцы я не глядзела – навошта, калі імя і прозвішча супадаюць? Вось выпадкова і напісала чужому чалавеку.

Яшчэ падчас размовы па тэлефоне я заўважыла, што голас «аднакласніка» нейкі не такі. Але падумала, што забылася, усё ж сем гадоў не размаўлялі. А сапраўдны аднакласнік, кажуць, у арміі цяпер.

**Ігар:**

– Неяк запрасіў дзяўчыну на шпацыр па горадзе, потым у кавярню, пагутарылі, час праляцеў незаўважна. Яна спяшалася дадому, правёў. Развіталіся, разышліся. Наступным ранкам патэлефанаваў ёй, спытаў, як справы, прапанаваў куды-небудзь схадзіць. Дзяўчына адказала, што моцна занятая, але не сказала, чым. Пакрыўдзіўся на яе, і мы разышліся.

**Марына:**

– Памятаю, сустракалася з хлопцам, які жыў у вёсцы і ездзіў да мяне ў горад. У адзін восеньскі вечар хлопец захацеў паказаць мне месца свайго жыхарства – не кватэру, проста вёску. Пагадзілася, бо ніколі там не была. Па дарозе спыніліся пакурыць. Выходзім – неба зорнаезорнае, цішыня, свежае паветра, справа – неабсяжны лес. Злева – магілкі. Што рабіць? Прагуляліся крыху і пайшлі ў машыну.

**Аксана:**

– Пазнаёмілася з маладым чалавекам праз інтэрнэт. Пасля нядоўга баўлення часу ў кафэ пайшлі гуляць па горадзе. Спатканне скончылася тады, калі малады чалавек вырашыў паказаць мне, як у помніка варушацца вушы. Больш мы не сустракаліся.

**Таццяна КАСЬЯН.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Гераіня казкі, якая выдавала сябе за салаўя.
3. Знак пунктуацыі.
6. Пачуццё пачцівасці.
7. Ёсць такі від жывой істоты – ледзяны … . Ён жыве ў ледніках Аляскі. Жыве пры тэмпературы, блізкай да пункта замярзання вады. Калі халаднее, упадае ў анабіёз. Паміpae пры тэмпературы +10, а пры пакаёвай тэмпературы раскладаецца.
8. Месца ў Смаргонскім раёне, дзе працаваў Францішак Багушэвіч.
9. Спектакль, у якім толькі спяваюць.
10. Калі мора пачынае гайдацца, на ім узнікаюць … .
11. Без яго не варта хадзіць каля праезных частак у цёмны час сутак.
13. Аналагаў гэтаму беларускаму слову няма ў рускай мове. Яно значыць «скрыня, якая высоўваецца».
16. Від прыроднай зоны, дзе амаль усю глебу пакрываюць імхі.
20. Прозвішча героя шпіёнскіх фільмаў, які вельмі любіў ікру бялугі.
21. Англічанка Долі Сэвіл працавала барменам да 101 года. За час працы яна разліла больш за два мільёны пінт чаго?
22. Ніл Гілевіч: «Ісціна, адвечная, як свет: … ходзіць толькі ў пары з горам».
24. Паняцце ў матэматыцы, якое азначае раўназначнасць.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Галоўная гераіня рубрыкі ў «РГ» «Дзённік мамы».
4. Чым нюхае слон.
5. Што мама чытае на ноч.
8. У яго складаюць грыбы.
12. Галоўная гераіня казкі пра пігласаў творцы родам з Маладзечна Надзеі Букі.
14. Уласцівасць атамаў хімічных элементаў утвараць пэўную колькасць хімічных сувязяў. Паходзіць ад лацінскага «які мае сілу».
15. Самы цёплы месяц у Антарктыдзе.
16. Бог грому і маланкі ў германа-скандынаўскай міфалогіі.
17. Гэтага стваральніка пэўнага віду рэвальвера выгналі са школы за тое, што зрабіў для сяброў феерверк.
18. У гэтай кветкі заўсёды два лісцікі.
19. Абараняе шыю ад ветру.
20. Паводле Гідраметэацэнтра, самы сонечны горад Беларусі.
23. Прозвішча старшыні Таварыства беларускай мовы пасля Алега Трусава.
25. Горад-радзіма Казановы.

## Адказы на крыжаванку з №6

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Макулатура. 3. Чорт. 8. Чыкага. 9. Дуб. 10. Патэльня. 11. Навука. 15. Законы. 18. Карзей. 20. Серада. 21. Ярус. 22. Круг. 24. Яхта.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Махачкала. 4. Паставы. 5. Цітл. 6. Чапяла. 7. Чаму. 12. Біблія. 13. Мама. 14. Бурштын. 16. Наўсцяж. 17. Каруза. 19. Метр. 22. Караль. 23. Снягі. 25. Агонь.



## ● ГАРАСКОП 15-21 ЛЮТАГА



**АВЕН.** Шмат сумненняў і пераменаў, перш за ўсё, звязаных з матэрыяльнымі пытаннямі. Можа з'явіцца цяга да азартных гульняў і іншых рызыкоўных мерапрыемстваў. Няма задавальнення ад таго, што вы ўжо дасягнулі, з-за чаго працягваеце шукаць і дзейнічаць, марнуючы ўвесь час свае сілы. Часам трэба ўмець і спыніцца, агледзецца, адумацца.



**ЦЯЛЕЦ.** У вас няма ніякіх падстаў скардзіцца – усё задуманае так ці інакш увасабляецца ў жыццё. Магчыма сустрэча з чалавекам, які навучыць вас перадольваць шмат якія жыццёвыя нягоды.



**БЛІЗНЯТЫ.** Галава ваша будзе працаваць нестандартна, з'яўляючыся генератарам вялікіх ідэй. Дзяліцеся сваімі думкамі з навакольнымі, яны гэта зразумеюць і ацэняць. І ўвасабляйце ў жыццё. Каб пазбегнуць стрэсаў, не губляйце душэўнай раўнавагі. І жывіце па формуле: «Спачатку падумай, а потым зрабі»!



**РАК.** Вы атрымаеце адказ на даўно хвалюючае пытанне. Дзіўна, але ўсё акажацца значна прасцей, чым вы ўяўлялі. Не прыспешвайце падзеі, бо вам будзе падзяка за доўгае цярпенне, яны парадуюць вас такімі прыемнымі наступствамі, аб якіх вы нават і не марылі.



**ЛЕЎ.** Для вашага знака складваецца незвычайнае размяшчэнне планет, што можа падарыць вам знаёмства з апекуном ці паклоннікам вашага таленту. І не расказвайце свае тайны навакольным, бо вашы словы могуць няправільна растлумачыць.



**ДЗЕВА.** Нават калі вам не падабаецца цяперашняе месца працы (напрыклад, не хапае прасторы для самастойнай дзейнасці), не спяшайцеся шукаць новую галіну прыкладання сваіх працоўных рэсурсаў.



**ШАЛІ.** Вы ўсё перажываеце, сумняваецеся, ці правільна зрабілі, ці правільнае рашэнне прынялі. Ад гэтага псуецца настрой. Не перажывайце, будзьце ўпэўнены ў заўтрашнім дні, і ўсё атрымаецца.



**СКАРПІЁН.** Вас чакаюць рознабаковыя дзелавыя кантакты, у тым ліку тыя, якія адкрыюць галавакружныя перспектывы. Будзе шмат работы, але няма ніякай неабходнасці спраўляцца з усім самастойна, ёсць жа правераныя людзі.



**СТРАЛЕЦ.** У вас на гарызонце – перамены. Мяняецца не толькі ваша жыццё, колькі вашы адносіны да яго. Даецца магчымасць увасобіць у жыццё самыя смелыя планы і жаданні.



**КАЗЯРОГ.** Вы будзеце на вышыні, таму пастарайцеся кожны дзень выкарыстаць па максімуму. Яшчэ вы станеце добрым дарадчыкам, сябрам проста неабходная будзе ваша парада.



**ВАДАЛЕЙ.** Могуць спатрэбіцца такія якасці, як спакой, вытрымка. Магчыма, калегі не заўсёды будуць пра вас самага лепшага меркавання, але да іх слоў не варта прыслухоўвацца ўсур'ёз. Выконвайце работу своечасова – гэта пазбавіць вас ад лішніх цяжкасцяў. Ваша працавітасць будзе заўважаная і ацэненая.



**РЫБЫ.** Працуйце над сабой, мяняйце да лепшага свае адносіны да людзей і свету. Не будзьце ганарлівыя, бо менавіта ганарлівасць будзе перашкаджаць развіццю.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | | 3 | | 8 | 4 | 9 | | |
| | 4 | 5 | | 9 | | 8 | 1 | |
| | | | | 2 | | | 3 | |
| | | 1 | | 7 | | | | |
| | | 4 | 6 | | | | | 9 |
| 6 | | 7 | | | 3 | | | |
| | 5 | 2 | | | 1 | | 9 | |
| | | 8 | | 3 | | 4 | | |
| | 6 | | | 4 | 5 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

...ШАЯ ...ЬНАЯ ГОДА ...15


## Чытайце праз тыдзень

- **Калі дзіця, што страціла сям'ю, ужо не маленькае, мае досвед жыцця ў кепскіх умовах і не мае сваякоў, зацікаўленых у яго лёсе, гэта не значыць, што адзінае выйсце – сацыяльны прытулак. Пра тое, як стаць прыёмнымі бацькамі, раскажа спецыяліст з аддзела адукацыі.**

● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

– Надакучыў мне гэты мабільнік. Тэлефануе кожныя пяць хвілін. Дастаў!

– Дык выкінь яго.

– Ды выкідаў ужо тры разы.

– І што?

– Ды ён назад на вібразванку прыпаўзае, гад!

***

– Іваноў, дайце абгрунтаванае вызначэнне слову «асфальт».

– Асфальт, прафесар, – часовае пакрыццё перад землянымі працамі.

***

Іншапланецянін, які ажаніўся з зямной жанчынай, пасля першай сваркі з жонкай дадаўся шмат новага пра лятаючыя талеркі.

***

– Ісціна – у віне...

– У чыёй?

– Ты з юрыдычнага?

## На Маладзечаншыне на полі з'явіўся амаль сяміметровы снегавік

МАЛАДЗЕЧНА

**Чацвёра дарослых і трое дзяцей зляпілі гіганцкага снегавіка на полі ў Красным.**

Як расказала «РГ» адна з аўтараў **Ірына Чаеўская**, ідэя з'явілася, калі адзін з блогераў абвясціў у інтэрнэце конкурс на самага вялікага снегавіка. За яго абяцаў 100 тысяч рублёў.

Снегавіка Сцёпу вырашылі зляпіць на полі – для бяспекі. Ляпілі ўручную. Валасы і вусы – з сасновых галінак, у якасці носа – вялікая сапраўдная морква. Ірына кажа, спачатку хацелі зрабіць нос з некалькіх малых марковак, але перадумалі. Каркаса ўнутры снегавіка няма. Вышынёй Сцёпа амаль сем метраў. Вядома, творцы выкарыстоўвалі лесвіцу.

– Снегавік пакуль стаіць, але ўжо пачаў раставаць. Кардон раскакае, канешне. Там і вочы, і гузікі з кардону, – дзеліцца Ірына. – Прапанаваў назваць Сцёпам сын. Ён дадаўся, што ў блогера быў хамяк Сцёпа, які памёр.

Да гэтага на прыватным участку творцы ляпілі фігуры са снегу, хаця не такія маштабныя. Напрыклад, снежная крэпасць стаіць ужо паўтара месяца.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота забяспечанае Ірынай ЧАЕЎСКАЙ.**





## 16 лютага, субота

**Вецер:** заходні, 5-6 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -27,4°С у 1989 годзе
Максімальная тэмпература +7,1°С у 1998 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,7 мм у 2014 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Як вы думаеце, што станецца з беларускай мовай праз 50 гадоў?



**Аліна Нацэвіч, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Спадзяюся, беларуская мова будзе і праз 50 гадоў, і праз 500. У беларусаў павінна быць «адметная» родная мова. Беларуская дастаткова складаная, часам грубаватая, месцамі – смешная і нязвыклая, але наша. Падабаюцца людзі, якія гавораць па-беларуску.



**Настасся Паўлоўская, фатограф, студэнтка ўніверсітэта, Маладзечна:**

– Магчыма, праз 50 год дзяржаўнай будзе толькі руская. Хачу верыць, што наша мова будзе гучаць заўжды. Я вучылася ў класе з беларускім ухілам. І калісьці практыкавала «дзень па-беларуску» – цэлы дзень з сябрамі размаўлялі толькі па-беларуску.



**Вадзім Бабей, кіроўца, Маладзечна:**

– Цалкам магчыма, што праз пару дзясяткаў гадоў дзяржаўнай застанецца адна мова – руская. Моладзь гаворыць толькі на ёй, наступнае пакаленне не будзе заматываванае ў вывучэнні беларускай. Мне заўсёды прыемна чуць, калі нехта размаўляе менавіта на «мове», а не на «трасянцы».



**Таццяна Вабішчэвіч, спецыяліст па турызме, Маладзечна:**

– Спадзяюся, праз 50 гадоў беларуская мова будзе гучаць усюды. Гэта наша родная мова, мова прадзедаў і бацькоў. У апошні час беларускія словы ўсё часцей можна пачуць з вуснаў знаёмых. Калі чую беларускія словы, адразу становіцца спакойна і радасна.



**Аляксандр Нінько, пісьменнік, Маладзечна:**

– У сённяшнім свеце, які імкліва змяняецца, вельмі цяжка рабіць гістарычныя прагнозы. Лічу, беларуская мова не памрэ, а ступень яе выкарыстання будзе залежаць ад нашчадкаў. Хутчэй за ўсё, пасля перыяду глабалізацыі наступіць перыяд цікавасці да нацыянальных культур.



**Іна Валковіч, начальнік вытворчасці ў прыватнай кампаніі, Маладзечна:**

– Думаю, беларуская амаль знікне. На жаль, моладзі не падабаецца размаўляць на беларускай мове. Традыцыі, звычаі, побыт паступова страчваюць сваю каштоўнасць як культурнай нацыянальнай спадчыны.



**Глеб Лабадзенка, стваральнік курсаў «Мова нанова», Мінск:**

– Беларуская мова будзе адзінай дзяржаўнай. Інакш Беларусі не будзе ўвогуле. Беларусы ўспомняць, што мы еўрапейская нацыя, з 1200-гадовай гісторыяй дзяржаўнасці, ды і мове нашай больш за 800 гадоў.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№7 (1242) 15.02.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 251. Падпісана ў друк у 9.00 14.02.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.